Год I. Кастрычнік. № 7.

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 7:



„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . 4 зл
Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno, Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год I. | ВІЛЬНЯ, — КАСТРЫЧНІК 1929 Г. | № 7. |
| --- | --- | --- |

## *У АРГАНІЗАЦЫІ СІЛА.*

*Гэтая прыказка даўно ўжо нам вядомая. Прыглядаючыся да жыцьця вайсковага, можам найлепш пераканацца, якое мае значэньне арганізацыя. Калі армія добра зарганізавана і вышкалена, то заўсёды перамога будзе на яе баку. Так ўсюды ёсьць. Адзін чалавек ня можа шмат чаго зрабіць, бо ён заслабы. Чалавек, як адзінка, на кожным бадай кроку ў жыцьці штодзенным спатыкае перашкоды.*

*Каб абмінуць, або паканаць гэтыя перашкоды, чалавек павінен арганізавацца і супольнымі сіламі змагаць перашкоды, бо ў арганізацыі сіла.*

*Восьжа і нашай беларускай моладзі трэба ісьці разам, трэба арганізавацца, каб нішто нас не зламала на нашым жыцьцёвым шляху.*

*Ужо найвялікшы час, каб і мы, беларуская моладзь, стварылі сваю моцную арганізацыю. Трэба ведаць, што арганізацыя — гэта адна сям'я, дзе бадай-што ўсе адно думаюць і адно робяць.*

*Стварэньне моцнае арганізацыі беларускае моладзі — гэта павінна быць першым і неадкладным заданьнем нашае моладзі Стварыць моцную аргазніацыю — рэч, праўда, ня лёгкая, але магчымая. Адно трэба хацець, а калі хацець — значыцца зрабіць, гэтак кажуць разумныя людзі. Пры гэтым трэба памятаць, што на першым пляне мусіць быць шчырая, інтэнсыўная праца ў гэтым кірунку, а таксама супольнае зразуменьне справы*

*Мусімо пакінуць тую думку, што нехта прыдзе і нам створыць шчасьце ў нашай Бацькаўшчыне. Мусім самі мы працаваць і каваць сабе шчасьце, а дзеля гэтага патрэбна праца і яшчэ раз праца.*

*Стварэньне арганізацыі, стацца яе сябрам і выпісываць „Шлях Моладзі“ — гэта яшчэ ня знача працаваць у дадзенай арганізацыі; — гэтым мы не*

*павінны агранічыцца, гэта яшчэ ня будзе тая праца, якой вымагае ад нас наша Бацькаўшчына.*

*Праца гэта будзе адчасьці споўнена, калі мы будзем пашыраць ідэю, заданьні сваей арганізацыі, калі будзем як найболь уцягіваць моладзі ў гэтую арганізацыю, а самае важнае, калі мы будзем працаваць падпарадкаваючыся ўсім пунктам статуту і інструкцыі дадзенае арганізацыі. Вось у чым павінна заключацца нашая будучая праца.*

*Ня можна нам, барані Божа, безнадзейна апушчаць рукі і ня верыць у плады сваей працы. Эканоміка кажа: кожная праца, кожная затрачанаа энэргія, мусіць даць адпаведныя плады. Дык верымо ў плады сваей працы і працуймо!*

*Даволі нашае моладзі працаваць у рожных польскіх арганізацыях.*

*Не забывайма, што беларусаў пад Польшчай ёсьць каля 2 з паловай мільёнаў. Дык ці-ж мы ня можамо стварыць хоць адну моцную арганізацыю беларускай моладзі?!*

*Ці-ж нам ня сорам перад сьветам, што да сяньня яшчэ ня маем сваей арганізацыі, а бадзяемся па чужых, дзе сусім трацім, або калечым свае маладыя душы!?*

*Ніхто ня будзе з намі лічыцца, калі вечна будзем нявольнікамі, вечна будзем камусь служыць, або ў чужую скуру ўлазіць.*

*Не забывайма, што на нас пакладае надзеі старэйшае грамадзянства.*

*Называе яно нас «красой і надзеяй нашага Народу». Дык, мы з свайго боку мусім старацца, каб запраўды зьдзейсьніліся надзеі старэйшага грамадзянства, каб не засароміць сябе пасыўнасьцю і маладушнасьцю.*

*Глянь-ма на Украінскую і Літоўскую моладзь, якія ў іх моцныя арганізацыі, як у іх праца кіпіць! Дык і мы павінны браць прыклад з такое моладзі.*

*Праца-ж наша тады будзе прадукцыйнай і карыснай, калі мы будзем усе супольна працаваць пад сьцягам сваей арганізацыі.*

*Дык, якнайхутчэй стараймося зрэалізаваць свае думкі!* М. Пяцюкевіч.

# Больш руху.

Рух патрэбны людзкому здароўю таксама, як штодзенная ягоная страва, як вада, як паветра, як сонца. Словам, рух ёсьць для чалавека вартасьцю неабходнай. І тыя з людзей, што ў штодзеннай працы сваей з рухам не спатыкаюцца (— працуюць галавой), — мусяць сабе гэты рух надгарадзіць іншым чынам. Таму мы бачым напр. розных чыноўнікаў і г. д., як яны пасьля сваіх штодзенных заняткаў ідуць або на спацыр, або ў нейкія нават адумысловыя зборышчы людзкія, дзе гімнастыкуюцца, займаюцца спортам, бегаюць, сьпяваюць і г. д. Усё гэта: спацыр, спорт, гімнастыка і г. д. ня ёсьць ніякім люксусам, і ніякай надпатрэбай: ўсё гэта ёсьць канечнасьцю для жыцьця і здароўя перад усім тых людзей, што ў занятках штодзенных сваіх (пішуць, чытаюць) руху цялеснага ня ўжываюць.

Сягоньня справы стаяць так, што насельніцтва мест амаль цалком ужо зразумела важнасьць руху для чалавека і стасуе яго дзе і як толькі можа. Таму мы зьяўляемся сягоньня сьведкамі разросту спортыўных і гімнастычных таварыстваў ў местах, у кругох як інтэлігэнскіх, так і работніцкіх.

Інакш справа прадстаўляецца на вёсцы. Ня толькі ў нас. Тут гаварыць селяніну аб патрэбе руху — рэч вельмі няўдзячная. Селянін-земляроб, працуючы ад сьвітаньня да зьмяркаsuccessfullyньня каля сваей гаспадаркі, найсьвяцей перакананы, што больш руху, як ён робіць, рабіць ужо нельга і таму кожнага „апостала“ руху найчасьцей збывае сьмехам. А тым часам усюды, дзе ходзіць аб выпярэджываньне ў выдайнасьці фізычнай працы, жыхар вёскі найчасьцей уступае жыхару места. Чым гэта вытлумачыць?

Уся праца селяніна-земляроба адбываецца вельмі павольным тэмпам і найчасьцей у позе згорбленай, нявыгоднай для самога здароўя. А гэта таму, што рух пры земляробскай працы ня ёсьць усестаронным. Таму адумысловая, хоць-бы найпрасьцейшая і найкарацейшая гімнастыка больш можа даць фізычнаму разьвіцьцю чалавека, чымся няуморная, бязупынная праца земляроба. Гэтым, барані Божа, ня кажам, што фізычная праца земляроба для здароў'я нічога не дае: дае вельмі шмат; але працу гэту, каб чалавек мог разьвівацца нармальна, трэба дапоўніць такімі фізычнымі рухамі, акія-б памагалі разросту часьцін цела пры штодзеннай працы бязчынных. Усё гэта паадзіночнаму чалавеку робіць за цяжка. Затое зусім лёгка і магчыма зрабіць гэта ў адумысловых целацьвічных арганізацыях. Праграма працы такіх арганізацыяў мусіла-б быць датарнавана да мяйсцовых патрэбаў (вёска, места).

Нашто гэта пішам?

Пішам гэта ў цьвёрдай веры, што будучыня беларускага Народу ў значнай часьці будзе залежыць, ад ягонай фізычнай здатнасьці. „У здаровым целе — здаровы дух“ — гэтага нам трэба сягоньня вельмі шмат. Фізычнае узгадаваньне ня сьмее выродзіцца ў бязмыснае як-бы сказаць ідалапаклонства, але мера мусіць быць дасягнена і захавана.

Цяжка можа аб усім гэтым пераканаць людзей старшых. Але моладзь беларуская мусіць ужо гэта разумець і чым хутчэй лучыцца ў свае спортыўныя і гімнастычныя таварыствы, бо — паўтараем — толькі „ў здаровым целе ёсьць і здаровы дух“.

**В. В.**

---

# Літэратурны аддзел.

**Я. Быліна.**

## ДУБОВЫ ЛІСТОК.

(Пасьвячаецца Кс. В. Шутовічу.)

„De la tige detachée
pauvre feuille dessechée
ou vas tu?“

*Arneault.*

Бедны лісточак, дубовы сухі,
Гоніць ўсё вецер цябе праз лугі,
Ці знаеш куды?

— „Бура у полі зваліла дуб крэпкі
І адарваўшы ад роднае кветкі,
Загнала сюды.

Жыў я вясёлы, ня меў недастатку,
Покуль быў разам з карміліцай маткай,
Бяды я ня знаў.

Гдзе мне падзецца, сам я ня знаю,
Родненькай веткі ужо не спаткаю —
Адзін пазастаў.

Мокну ад дожджу, мароз прабірае,
Жыць надта цяжка, ох, доля ліхая!
Ў магілку хоць ляж.

Як вясна прыйдзе, усё аджывае,
Свет тагды цэлы гымн шчасьця сьпявае,
Я сумны усьцяж“.

## СЬЛЯЗЬМІ ЗАЛІТАЯ...

Сьлязьмі залітая,
Горам спавітая,
Даволі стагнаць, Беларусь!
Хоць рукі зьвязаны,
Голас прыцішаны,
Ўсё-ж сілен твой сын Беларус.

Хоць ты забраная,
Моцна скаваная,
Цябе сын твой будзе любіць,
Як матку родную,
Пашаны годную —
Ён будзе цябе бараніць.

Сьлёзы бяссільныя,
Рукі ёсьць сільныя,
Ад крыўды балючай ня плач.
Многамільённыя,
Сыны прыгонныя
Паўстануць, — іх толькі пакліч.

За Айчыну матку,
За родную хатку,
Ў патрэбе жыцьцё аддадуць;
Кліч-жа забраная,
Матка каханая,
Хай сьмела кайданы парвуць.

*Леанід з пад **Вішнева.***

## АД ПРАЦЫ.

Яшчэ вось дзень,
Прыгожы і румяны
Мінуў — загас

І ночкі цень
Раскінула над намі
Свой — агняпас.

І сям — і там
У бабках велічава
Стаяць снапы

Гарадь агнём
Спрацованыя рукі,
Іду — дамоў.

За мной з бакоў,
Цягучых песьняў гукі
І звон сярпоў.

Да хат таўпой
З палёвай працы жнеі
Ідуць — пяюць...

У душы — спакой...
А ў небе зоры жменяй
Хтось сее — ў муць.

Лукішкі 1929 г. *М. Машара.*

* * *

Люблю цябе, мая старонка —
І сам ня ведаю за што...
Так люба простая гамонка,
Старая хатка і гумно!

Люблю тры белыя бярозы,
Што насупроць стаяць вакон —
Яны мае сушылі сьлёзы,
Як быў маленькім пастушком.

О Край мой! Васільковы вочы!
У моры жоўтых сьпелых ніў,
Як часта сярод цёмнай ночы
Цябе прыгожым, сьветлым сьніў!...

*А. Мікуліч*

## НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

Божа мой, каля саду тры сьцежачкі, Божа мой!*).
Ішлі прайшлі тры дзевачкі.
Адна дзевачка тонка, высока,
А другая — бела — румяна,
А трэцяя — чорна, маленька.
Тонка, высока пашла далёка.
Бела румяна пашла за пана,
Чорна маленька — за караля.
Сталі паны зьягджаціся,
Ды з караля сьмяяліся:
Чаму ня браў тонкай, высокай?
Чаму ня браў белай-румянай?
Нашто ўзяў чорну-маленьку?
Тонкая дрэва ламлівае,
Белая рэцька чарвівая,
А чорна зямелька ўрадлівая.

Запісаў у в. Рабунь, Вялейскага пав.

*Міхал Шчасны.*

---

*) Кожды радок пачынаецца і канчаецца славамі „Божа мой“.

# Замошская рэспубліка.

Распачатая ў 1919 годзе польска-савецкая вайна не зрабіла вялікага ўражаньня на сялян вёскі Замошша. Нэрвы за чатыры гады агульна-эўрапэйскай бойні прытупіліся настолькі, што нават жанчыны, пачуўшы недалёкія гарматныя стрэлы, не плакалі, як гэта было даўней спачатку вайны, а пасылалі толькі ў той бок, адкуль нясьліся гукі, па некалькі праклёнаў. Праўда, што вёска Замошша знаходзілася ў значна лепшых варунках ад суседніх вёсак. Непажаданыя госьці-жаўнеры ня так часта заходзіліся сюды, бо ляжала яна далёка ад усіх вялікіх шляхаў. Апрача таго, з аднаго боку раскінуліся вялікія непраходныя імшаныя балоты, а з другога—працякала рэчка, хоць невялічкая, але дужа багністая, Усё гэта захоўвала часта вёску ад раптоўных наскокаў і давала веру сялянам у тое, што а можа не дабяруцца, а можа абмінуць. Але, як кажуць, „у Бога вер, а сам не зявай“, так і замашшане стараліся быць гатовымі на ўсялякія магчымасьці. Перагналі жывёлу на адзін з імшаных астраўкоў, перавязьлі туды ўсё найлепшае з хат і былі пэўны, што туды ніхто не трапіць, бо дарогу на астравок ведалі толькі Замашшане. Калі-ж бы рушыў туды хтонебудзь з пастароньніх, дык напэўна загінуў-бы у амшаных трасінах.

Бывалі выпадкі, што і ў Замошша заглядалі жаўнеры, але гэта здаралася тады, калі фронт пасоўваўся далей і калі надходзілі тылавікі. Гэтыя жаўнеры, чуючы сябе бяспечна, адлучаліся па пяць—дзесяць чалавек і забрыдалі далёка ад свайго аддзелу ў самыя глухія куткі, шукаючы хурманак, а разам з тым сала, масла, яек. Ня брыдзіліся, праўда, і іншымі рэчамі, для якіх у сумцы ці ў кішані жаўнера заўсёды знаходзілася мейсца. Навучаныя горкімі здарэньнямі, сяляне падазрона пaглядалі на адведаючых іх няпрошаных гасьцей і стараліся, каб шукаючае вока не нaбрыло часам на якую-небудзь рэч. Дзеля гэтага, як ужо было адзначана, усё лепшае у гаспадарцы хавалася на востраве. Не паказываліся таксама на вочы гэтым гасьцём дзяўчаты і маладзейшыя жанчыны, якія або прабывалі ў лесе, або туляліся па задворках. Прыбыўшыя жаўнеры дарма шукалі дарма паграджалі. Знаходзілі панурых мужчын і старух-жанчын, якія на пытаньні: „Дзе коні, дзе масла, сыр і г. д...“ адказывалі: „даўно ўсё забралі; вы, паночкі спазьніліся.“

Праўда, даставалася часта бедакам, але-ж вайна—нічога ня зробіш! Цярпеў бядак-селянін, сьціснуўшы зубы, у душы пасылаючы да ўсіх нячыстых гэтых дабрадзеяў, і маўчаў. Дзеля таго, што такія госьці прыходзілі да Замошша даволі рэдка, суседнія вёскі завідывалі іх долі, а са-

мі Замашшане ня дужа палохаліся вайны. Вось і сяньня, чуючы далёкія гукі—гарматную стрэляніну, яны даволі спакойна чакалі перамен, бо ўсё, што патрэбна было захаваць знаходзілася ўжо ў пэўным мейсцы. На гумнах і агародах прыгатоўлены былі фармальныя бліндажы з захожамі. Зроблены яны ўмелай рукой старых жаўнераў, якія нядаўна папрыходзілі з фронту, і былі амаль што пэўным мейсцам для сховаў ня толькі адкуль, але і ад гарматных снарадаў.

Працаваць у такія дні нікому не хацелася, а да таго пільніца ўжо мінула, бо стаяла глухая восень і палявыя работы даўно ўжо былі скончаны. На вуліцы сабралася некулькі сялян. З цікавасьцю прыслухоўваліся да страляніны. Безперастанку пыхкалі люлькамі, напоўненымі сьвежым тытынём—самасейкай.

Гутарка неяк ня клеілася. Кожнаму хацелася ведаць, адкуль страляюць і хто, але ніскуль няма жаднае весткі. Ведалі, што палякі былі наперадзі, але гукі раздаваліся ў правым баку. Значыць, адступілі. Але як гэта здарылася, што яны і не прыкмецілі? Прыдзецца чакаць рускіх.

Так разважаючы, угледзілі, што праз кладку на рацэ хтось прабіраецца да іхняе вёскі. Хто-б гэта мог быць? Можа разьведка?—падумаў кожны і сталі чакаць. Ажно была не разьведка, а свой чалавек, Якуб Шпак, якога месяц таму назад злавілі з канём, калі вазіў снапы з поля і забралі ў падводы. Абросшы барадой, абарваны, з худым і цьмяным тварам, ён застанавіўся перад суседзямі.

„Як маяшся, Якуб? Што-ж гэта ты, браток, без каня варочаесся?—спытаўся стары Антон.

— „Эх, дзядзька, добра што з галавой вярнуўся, а ўжо многія і галоўкі паскладалі“ — адказаў Якуб.

— „Дык скажы-ж нам, суседзе, што там чуваць — адступаюць здаецца?“

— „А вы думаеце, што ад іх так і ўцёк-бы, каб не адступалі? — адказаў Якуб. — Эх, браткі! нацярпеўся-ж я ліха! О-хо-хо! Ніколі ў жыцьці не забудуся гэтага: і білі і галадаваў, і чаго-чаго толькі не вытваралі. Не здарма-ж і каня адрокся; апошняга, браткі, коніка!“

Зьвесіў галаву, сьлёзы на вачох. Пачуліся спачуваючыя ўздохі.

„А цяпер — ізноў стаў гаварыць Якуб — вось там за мохам палякі, а за Цьвецінам — рускія. Тут-жа ў нас нікога няма; можа прыдуць?“

Сказаўшы гэта, павярнуўся і пайшоў цяжкім і няпэўным крокам да сваей хаты, дзе чакала яго жонка і дзеткі. Застаўшыяся, пагутарыўшы крыху, таксама сталі разыходзіцца па хатах. У кожнага на душы быў нейкі асобны на-

строй: чакеньне чагось няведамага, страшнага. Галоўнае пужала іх тое, што засталіся „ні пад кім,“ гэта знача, што зразу страцілі ўладу і сталі як-бы самі кіраўнікамі свайго лёсу.

На раніцы ізноў сабраліся суседзі пасярод вуліцы, каб падзяліцца ўражаньнем за мінулую ноч і думкамі аб будучыне. З аднаго і другога боку нясьліся глухія гарматнія гукі. Тут-жа ў асяродку, як быццам ўсё замёрла: было так ціха, што чулася нават гутарка ў суседняй вёсцы.

„Што-ж, мужчыны, будзем рабіць? — спытаўся Антон, —як бачыце, засталіся без улады.“

—„Каб ґэтак было й заўсёды, дык лепшага жыцьця і ня трэба—адказаў Лявон, малады мужчына, пабываўшы на фронце і, як кажуць, „бачыўшы сьвет.“

—Што ты чаўпеш? Якое-ж гэта жыцьцё, калі няма начальства? Завядуцца зладзеі і, чаго добрага, усіх пазабіваюць“ — умяшаўся Зьмітрок, вядомы на цэлую ваколіцу сваей палахлівасьцю.

—„Э, былі-б мы самі гаспадарамі на сваей зямельцы, дык вывялася-б і зладзейства. Абкрадываюць нас не свае, а прыблуды. Крыўды і розныя зьдзекі таксама ад чужынцаў церпім. Толькі-б не перашкаджалі, то завялі-б мы самі добрыя парадкі“—не здаваўся Лявон.

—„Ведаеце што, давайце заложым сваю рэспубліку. Пакуль-што маем толькі тры вёскі, а далей далучацца яшчэ, яшчэ... Вось будзе добра!“—сказаў малады хлапец Янка, які крышку вучыўся ў гарадзкім вучылішчы і чытаў аб рожных дзяржаўных устроях. „Я ніяк не магу зразумець—дадаў—чаго яны вадзяцца?

—„Хто вадзіцца? —спытаўся Антон.

—„Вядома-ж хто: рускія і палякі прыйшлі ў наш край, усё нішчаць, ды й шмат людзей загубілі, а за што—каб хто спытаўся? Ці-ж мы іх прасілі?“

—„Вось, бачыш, браток, людзі на чужое ласы—сказаў Якуб.—А тое, што ты кажаш аб рэспубліцы, то рэч ня дрэнная. Толькі трэба пачаць, а там глядзі і цэлая Беларусь паўстане да новага жыцьця. Ня было ў нас дагэтуль сьмелых людзей. Літва, на што маленькая а й то—казалі—ужо сама сабой кіруе.“

Гутарачы паміж сабой, яны заўважылі падходзячых суседзяў з Весялухі і Андронава, якія, як і Замашшане, былі паміж фронтамі і прышлі пагутарыць і даведацца аб навінах. Янка адразу азнаёміў аб чым гутарылі і быў задаволены, што ёсьць узборы прадстаўнікі ўсіх трох вёсак.

„Вось мы цяцер—кажа—адразу можам і пастанавіць аб рэспубліцы, бо амаль што з кожнае хаты ёсьць па чалавеку.“

Адны жартавалі з яго прапазыкі, а другія верылі на-

ват у магчымасьць зьдзейсьненьня ягонае думкі. Як і заўсёды на зборышчах, пачалі спрэчкі.

—„Вось кажаце рэспубліка, рэспубліка — загаманіў ізноў стары Антон—а я ўвесь век кручуся каля паноў і ня раз чуў, як пан Альшэўскі казаў, што дурны той, хто хоча мець Беларусь вольнай, бо тады ня будзе ні солі, ні жалеза, ні газы.“

**Пётр Чабор.**

(д. б.)



# Лісты.

## МОЛАДЗЬ — БУДУЧЫНЯ.

**Будслаў.** Апошнія дні верасьня... Таго яснасонечнага беларускага верасьня, аб якім з такім захопленьнем пісаў расейскі географ С. Меч.

Цішыня пануе ў прыродзе... Цішыня восенкага хараства нашае старонкі, абвеенае казкамі сівое мінуўшчыны. Ня чутно пульсаваньня жыцьця ў полі, у лесе і на рацэ. Усё паволі западае ў сон, хаваецца з твару зямлі ў яе нетры, дзе перабудзе ўсе зімовыя часьціны. Мімаволі зайздросьцім тым стварэньням і жывёлам, што маюць магчымасьць ня чуць і ня бачыць бураў, марозаў і мяцеліцаў.

Бязьмежнае хараство разьліта навокал. Хараство ня жыцьця прыроды, а яе вопраткі, каторая цяпер толькі паказваецца нам ува ўсей красе. Калі летам нас праймала і захплівала радасьць творчасьці, жыцьця, то цяпер мы пранікнуты радасьцяй адчуваньня вялікага прыгожства, якое магутнее пад уплывам чароўнае верасьнёвае цішы. Ня цьвітуць маі, не красуюць сады, але пераліваюцца чырваньзолатам бярэзьнікі і асіньнікі, чаруюць красой сьпеласьці яблыкі і грушы ў садох, абсыпаны хаты залатым дожджыкам клёнавых лісьцяў, а на полі разьліваецца мора зялёнае руні. Там-жа, дзе хварбы ня твораць красы, на шнурах бульбы снуюць гаспадары з кошыкамі, гарэзьліва ўюцца дымкі з вогнішчаў, цэлыя сямейкі высыпаюць на вясёлую і ўрачыстую працу. Цячэ сьліна на ўспамін пушыстай белай масы, абцягнутай чорнай лупінай і захаванай у гарачым попеле.

— — — — — — — — — — — — — — — — —

Які-ж вялікі дысонанс з гэтым жыцьцём натуры зраблю я, калі перанясуся ў абвееную цывілізацыйнай казёншчынай будзённасьць. Лепш і не параўновываць тое з гэтым. Перайду адразу да справы.

Новазарганізаваны Гурток Б. І. Г. і К. у Будславе ладзіць спэктакль — вечарыну. У нармальных варунках, здаецца і нічога асаблівага. Але ў тым то і бяда, што мы жывём у ненармальных абставінах. Дзеля гэтага аб такой нязначнай жыцьцёвай праяве, як спэкталь, гаворыць усё мястэчка і вакалічныя вёскі. Яшчэ пазволю сабе выясьніць, што звычайны спэктакль таксама не навіна ў Будславе, але ў тым то і справа, што цяпер ён нязвычайны, бо ладзіць яго „Гурток". Слова-ж гэтае змушае кожнага цёмнага чалавека азірнуцца і баязьліва скорчыцца. Дэвоткі-ж, пачуўшы яго, складаюць набожна руку і ў абурэньні дадаюць да звычайнай суплікацыі словы: „... і ад Гурткоў выбаў нас Пане!" Дзеля гэтага навасьпечаных будслаўскіх гурткоўцаў шмат хто спатыкаў словамі: „Братка, ты-ж вастрогам пахнеш!" Зачэплены звычайна меў адзін адказ: „маю катар і таму нічога ня чую."

Шмат працы палажыла наша моладзь, пакуль паставіла спэктакль. Шмат вынесла перашкодаў і шмат сьцярпела неўдачаў. Ды ўсё-ж свайго дапяла! Паміма ўсяго спэктакль адбыўся 29-IX і прайшоў нават з вялікім пасьпехам; ставілі „Боты" і „Модны Шляхцюк" Каганца, сьцягваючы шматлічную публіку. Адбыўся не дзеля таго, што так хацеў выпадак, а дзеля таго, што моладзь сама стварыла патрэбныя варункі і перамагла перашкоды. Змагайся-ж і надалей, дарагая моладзь, і будуй уласнае новае жыцьцё аж над нашым гаротным краем зазьяе ў праменістых блесках сонца сьветлая Будучына.

**Будслаўскі.**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ ГРЫМІЦЬ.

**Замоша,** каля Браслава. У мас у прошлых месяцах моладзь ладзіла шмат спэктакляў-вечарынаў, на якія прыхадзілі мясцовыя шляхтуны і розныя паўпанкі якія хацелі прывучыць нашу беларускую моладзь гаварыць папольску. Аднак не ўдалося гэта ім, бо нашая беларуская моладзь як гаварыла, так і гавора пабеларуску і незабываецца аб сваіх родных беларускіх песьнях, каторыя каждаю вечарыну вельмі ахвотна пяе.

Дык брава, Замошская моладзь, так і трэба! Няхяй жыве беларуская мова і беларуская песьня!

**І. Пупін.**

## ВОСЬ ДЗЕ ЦЕМНАТА!

**Войштавічы**, Вішняўскай гм., Валожынскага пав. Чытаючы розныя беларускія газэты, прыходзіцца мне спатыкаць шмат чаго цікавага.

Вось першая мая цікавасьць — гэта як працуе моладзь на вёсцы, бо мне здаецца, як вёска Войштавічы нічога ня робіць, толькі п'е гарэлку, у карты грае, займаецца разбоем, дык і ўсюды так робіцца. Але, як аказваецца, што ўсёж, такі ў другіх вёсках моладзь працуе на ніве беларускай, асабліва славіцца гэтым вёска Шутавічы з сваім тэатрам, які шмат у якіх мейсцах ладзіць прадстаўленьні.

Праўда, што ў нашай вёсцы ёсьць некалькі хлапцоў, якія хацелі-б працаваць на ніве беларускай і вельмі цікавяцца рухам беларускім, але ім перашкаджаюць свае вясковыя людзі, як старыя, так і маладыя, бо ўсе яны цёмныя, ня маюць зусім паняцьця аб Беларусі. Яны называюць беларусаў каталікоў — палякамі, а праваслаўных — рускімі. Вось хлопцы, якія цікавяцца беларускім рухам, выпісалі беларускія газэты: „Шлях Моладзі“ і „В. Кгупіси“, даведаўшыся аб гэтым старыя бабы, пайшлі жаліцца да ксяндза, каб ксёндз іх да споведзі ня прыняў, бо яны чытаюць беларускія газэты. Што ксёндз сказаў, гэтага ня ведама, але хлопцы малайцы, яны гэтага не пабаяліся, а яшчэ і другіх пачалі прывучаць да беларускіх газэт. Бабы вясковыя на іх глядзяць не раўняючы, як на ваўкоў, бо гэта, кажуць, камуністы, а не хрысьціяне.

Дык пара ўжо, людцы, прабудзіцца, ды паразумнець крыху!

**Я. Ваўштолскі.**

## ШТО РОБЯЦЬ З БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСАЙ

**Мёры**, Дзісьненскага пав. Калі была ў нас вясною гаголадоўка, дык усё жыцьцё заглохла. Хоць праўду кажучы, дык і раней нічога асаблівага ня было. Галоўнай прычынай гэтага ёсьць тое, што не даручаюць нам беларускіх газэт, каторымі наша сялянства цікавіцца. Калі пойдзеш на пошту па газэту, дык пачтар кажа, што адаслаў да гміны, пойдзеш у гміну, дык там адпраўляюць да стоража, каторы кажа: „я і ў вочы ніякіх газэт ня відзеў“. Ня чуліся-б мы так пакрыўджаны, калі-б і польскіх недаручалі, але не — рожныя буржуйскія „Pryjacieli“, „Świątecznyja“, „Słowy“ даручаюць акуратна. Праўда, што чытачы гэтых газэт маюць скрынкі пачтовыя. Нашыя-ж бедныя сяляне ня могуць іх мець, бо трэба за такую скрынку плаціць 12 зл. у год. Некаторыя сяляне дык былі змушаны перастаць чытаць беларускія газэты — іх застрашылі, што яны не дастануць дапамогі.

Дык вось, як у нас з беларускімі газэтамі. Мне здаецца, што, калі почта ці пачтар не даручае, дык гэта яны робяць самі ад сябе. З гэтым трэба змагацца.

Дык, браты дарагія даволі спаць і спадзявацца, што хтось вызваліць нас ад зьдзекаў, паможа і направіць нам

нашае жыцьцё. Нам трэба самым дамагацца належных нам правоў і стойка бараніць іх. Цяпер як-раз час калі складаюць дэклярацыі на родную ўрадавую школу, дык мы ўсе разам павінны выявіць свае пажаданьні і зложыць дэклярацыі. Нам трэба памятаваць, што чужая школа гэта вораг модзіцяці. Дык ня будзьма-ж ворагамі сваіх дзяцей, сваей моладзі! **Стары дзядзька.**

**Ад Рэдакцыі:** Аб недаручэньні газэт просім пісаць нам у Рэдакцыі: хто, дзе і якога нумароў не атрымаў, а мы будзем ведаць, што рабіць.

ЗАМЕСТ ГАРЭЛКІ — КНІЖКУ.

**Юрацішкі,** Лідзкага пав. У нашай мясцовасьці няма ніякіх іншых арганізацыяў апрача польскага „кулка млодзежы“ ў якое ідуць і маладыя беларусы каталікі, лічачы сябе палякамі; яны ладзяць гульню — тэатр у польскай мове, але ніхто на іхнія прадстаўленьні, апроч панкоў ня йдзе. Моладзь наша газэтаў не выпісвае, хаця цікавіцца беларускім адраджэньнем. На жаль п'юць у нас шмат гарэлкі, дзякуючы чаму разьвяліся патайныя шынкары. У вёсцы Ляпешках ёсьць амэрыканец Юзук Ясюлевіч, які трымае піўную, і які зачаў прадаваць гарэлку, але яго злавілі і Суд даў яму 4 месяцы турмы. Цяпер гэты прыклад адбіўся на другіх шынкарох і тайнай гарэлкі не прадаюць. Моладзь нашая можа будзе аглядацца цьвярозымі вачамі на свае паступкі, ды можа замест гарэлкі, пачнець чытаць свае беларускія кніжкі ды газэты. **Тутэйшы.**

# Хроніка.

**Падзяка.** Гэтым Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі“ складае шчырую падзяку Ц. Ураду Бел. Інст. Гасп. і Культуры за сталую месячную матэрыяльную помач, у суме 50 зл. на фонд нашага выдавецтва.

**Т-ва Беларускай Моладзі „Будучыня“.** Апошнім часам Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі“ прыступіла да стварэньня арганізацыі беларускай моладзі, дзеля гэтага апрацаваны ўжо статут, каторы ў найхутчэйшым часе будзе паданы да зацьверджаньня адносным уладам. Арганізацыя будзе называцца Таварыства Беларускай Моладзі „Будучыня“.

**Судзяць.** 15 г. м. у Апэляцыйным Судзе ў Вільні разглядалася справа рэдактара „Беларускай Крыніцы“ гр. Я. Пазьняка. Суд разгледзіўшы справу, засудзіў рэдактара Я. Пазьняка на месяц арышту за зьмяшчэньне ў „Бел. Крыні-

цы“ ў 1928 г. стацьці „Беларуская Акадэмія Навук у Менску“ і „Крывавыя падзеі ў Львове“.

**Кс. Др. Рэшаця „завесілі“.** Ведамы беларус кс. др. Рэшаць польскімі ўладамі пазбаўлены становішча законавучыцеля ў Беластоцкай вучыцельскай сэмінарыі.

**Мэмор'ял у Лігу Народаў.** Беларускі Пасольскі Клюб выслаў у Лігу народаў мэмор'ял, у якім апісаны ўсе ня праўныя паступкі польскага ўраду адносна беларускага народу. Сэкрэтар'ят Лігі Народаў атрымаў гэты мэмор'ял і прыслаў ужо паквітаваньне.

**„Беларуская Крыніца“ кірыліцай.** Цэнтральны Камітэт Бел. Хрысьц. Дэмакрацыі на сваім паседжаньні пастанавіў выдаваць сваю газэту „Беларускую Крыніцу“ два разы ў месяц літарамі лацінскімі і два разы кірылаўскімі (гражданкай). Зроблена гэта дзеля шырэйшага азнаямленьне беларускага грамадзянства з гражданкай і, каб супрацівіцца імкненьням увядзеньня ў беларускую пісоўню польскай абэцэды, якую уводзіць ведамы лемантар Ст. Л.—Маеўскага.

**З жыцьця беларускіх студэнтаў.** З пачаткам 1929/30 акадэмічнага году распачаў сваю працу Беларускі Студэнскі Саюз. І так 28 мін. м. ладзіў у салі Віленскай Беларускай Гімназіі спэктакль - вечарыну. Адыграны былі дзьве п'есы: „Страхі жыцьця“ — Фр. Аляхновіча і „Міхалка“. Выкананьне п'ес магло-бы быць лепшае.

6 г. м. прачытаў рэфэрат студ. Ст. Станкевіч на тэму: „Мэты беларускага студэнства“.

13 г. м. прачытаў рэфэрат студ. А. Бартуль на тэму: „Увагі аб мастацтве.“

У нядзелю-ж 20 г. м. а гадз. 5-ай мае прачытаць рэфэрат студ. М. Пяцюкевіч на тэму: „Ідэолёгія беларускага студэнства“.

**Бібліотэка — чытальня.** Цэнтральны Урад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры на сваім паседжаньні 6 г. м. пастанавіў адчыніць у Вільні беларускую бібліотэку — чытальню. Бібліотэка — чытальня месьціцца на Людвісарскай вул. № 1 над кнігарняй „Погоня“. Уваход праз кнігарню.

**Беларускі Вучыцелькі Саюз,** які паўстаў у пачатку гэтага году, падаў заяву ў Кураторыю просячы канцэсіі на адчыненьня прыватнай Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі і Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў.

**Бурса Беларускай Гімназіі у Навагрудку.** У Навагрудку 22 верасьня г. г. адбыліся ўрачыстыя закладзіны бурсы для беларускай гімназіі.

**У Усходняй Беларусі,** камуністы робяць паход проціў усяго беларускага. І так надаюць у газэтах на беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў, як Т. Глыбоцкага, Якуба Коласа,

Янку Купалу, а нават на Цішку Гартнага. Выкідаюць беларускіх культурных працаўнікоў з Беларускай Акадэміі Навук, як Смоліча, Азбукіна, Лёсіка, Цьвяткова, Шчэкаціхіна, Замоціна, Трамповіча Байкова і іншых. Камуністычная партыя заклікае яшчэ да большай барацьбы з нацыянальнымі беларускімі праявамі.

Гэта робіцца, каб задушыць беларускі нацыянальны рух, які што-раз больш там праяўляецца.

**Зьезд піонэраў.** Нядаўна ў Менску адбыўся ўсебеларускі зьезд піонэраў (камуністычнай дзятвы), аб падгатоўцы да якога мы ўжо пісалі. На зьезьдзе аказалася, што гэтая арганізацыя замест пашырыцца — звузілася. І так напр. орган беларускіх піонэраў „Беларускі Піонэр", які расходзіўся у ліку 3000 экз., расходзіцца цяпер толькі у ліку 1200 экз.

**Новы Украінскі уніяцкі біскуп.** У апошнія часы Апостальская Сталіца мянавала айца дохтара прафэсара Івана Бучко на біскупа суфрагана, каторы да гэтага часу працаваў, як рэктар Інстытуту сьв. Іосафата ў Львове.

**Міністар грамадзкай апекі Прыстар,** 12 г. м. робячы люстрацыю віленскіх прытулкаў, быў у прытулку Віленскай Беларускай Гімназіі.

**Прэзыдэнт Польшчы** ў канцы м-ца верасьня аб'яжджаў „Крэсы Всходне", паміж іншым быў на закладзінах беларускай бурсы ў Навагрудку. У пачатку гэтага месяца быў яшчэ раз у Вільні з прычыны 350-лецьця Віленскага Унівэрсытэту.

**Зьмена ўраду ў Літве.** У канцы м-ца верасьня г. г. падаўся ў адстаўку прэм'ер літоўскага ўраду Вальдэмарас. Цяпер на чале ўраду стаіць Я. Тубэліс.

**Памёр Штрэзэманн.** У пачатку гэтага м-ца памёр нямецкі міністар замежных спраў Штрэзэманн. Міністар Штрэзэман быў адным з вялікіх эўропэйскіх палітыкаў.

**Англія і Саветы** дайшлі да паразуменьня.

**Конфэрэнцыя Гувэра з Мак-Дональдам.** Нядаўна адбылася канфарэнцыя амэрыканскага прэзыдэнта Гувэра з ангельскім прэм'ерам Мак-Дональдам у справе сусьветнага супакою. Вынік канфэрэнцыі: бліжэйшыя зносіны Англіі з Амэрыкай і пастанова склініканьня ў найхутчэйшым часе канфэрэнцыі вялікшых дзяржаў. На гэтай канфэрэцыі маюць быць абгавораны справы сусьветнага супакою.

**Перанесены.** У пачатку гэтага месяца перанесены з Завальнай вул. № 7 „Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і кнігарня „Пагоня" на Людвісарскую вул. № 1. Перанесена такжа Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны з Людвісарскай № 1 на вул. Завальную № 6.

---

# Усячына.

**Якая будзе зіма.** Адзін францускі вучоны сказаў, што зіма 1930 году будзе яшчэ цяжэйшая, як 1929 г. Аб гэтым маюць сьведчыць плямы на сонцы, якія ўбачыў гэты вучоны.

**Новы калнедар С.С.Р.Р.** Саветы ўводзяць у жыцьцё новаапрацаваны календар. Паводле гэтага календара год падзелены на 72 тыдні. Кажды тыдзень мае 5 дзён, дні называюцца па старому за выняткам нядзелі і суботы, каторыя выкінутыя зусім, як сьвяточныя. У цэлым годзе ўсяго ёсьць 5 дзён сьвята рэвалюцыйнага (22 студня, 1 і 2 траўня, 7 і 8 лістапада). Работнікі замест нядзелі маюць адзін дзень на тыдзень адпачынку, замяняючы адзін другога.

**Першы сьнег** быў выпаўшы ў Татрах яшчэ 9 верасьня г. г.

**Жубры ў Белавескай пушчы.** З надыходам ўсесьветнай вайны, у найвалікшай на Беларусі Белавескай пушчы бадай зусім выгінулі адзіныя на ўсім сьвеце жубры. Цяпер хочуць іх разгадаваць ізноў, дык дзеля гэтага абгарадзілі 30 гэктараў пушчы і прывязьлі з Варшаўскага зьвярынца пару жубраў.

**Што будзе ў 1930 г.** Нямецкія астралёгі Гофман і Грін прадсказваюць, што 1930 г. будзе вельмі цяжкое палажэньне гаспадарчае і эканамічнае ў тых дзяржавах, якія парамаглі ў сусьветнай вайне — будзе там вялікае безрабоцьце, якога яшчэ ніколі ня было. У 1930 г. будзе больш як звычайна катастрофаў, няшчасьцяў, бураў, землятрасеньняў і г. д. У 1930 г. мае дайсьці ў некаторых дзяржавах да рэвалюцыі. Канец 1930 г. мае быць шчасьлівейшы, як папярэднія гадоў.

**Вайна гадзюкаў.** У Пэрсіі пасьля апошняга землятрасеньня з паўстаўшых шчылін пачалі вылазіць двааякага роду гадзюкі, якія вялі з сабою вялікую вайну. Многа гадзюкаў падушылася з прычыны вялікага натоўпу.

**Гаская канфэрэнцыя**, якая адбывалася ў працягу 22 днёў у гэтым годзе ў Галяндыі, дзе была разглядана справа ваенных даўгоў, каштавала адзін мільён галяндскіх гульдэнаў. Гэтая сума раўняецца 5-ай часьці тае сумы, за якую так доўга спорылі паміж сабой галоўныя эўропэйскія дзяржавы: Нямеччына, Англія і Францыя.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

# Наша пошта.

а. А. Філевічу. Вельмі дзівімся, чаму Вы не атрымліваеце, мы Вам акуратна высылаем; відаць мясцовая пошта не даручае. Бракуючыя нумары выслалі.

С. Пукелю. Вы добра кажаце, добрая Ваша думка, але ведайце, што дарма ніхто нікому не дае. Карэспандэнцыю зьмесьцім.

Мёрскаму. Беларускіх прадстаўнікоў у Сойм хіба-ж ведаеце прозьвішчы. Некаторыя з прадстаўнікоў жывуць у Вільні, а некаторыя на вёсцы. Фэст Ваш ужо мінуў.

П. Гэцману. № 1 „Ш. М". выслаць ня можам, бо ўжо вышоў, а № 4 высылаем. Дамагайцеся на Вашай пошце, каб акуратна даручалі.

В. Кулаку. „Б. К." выходзіць шмат радзей, але калі Вы зусім не атрымліваеце, то пэўна пошта круціць; дамагайцеся на пошце.

І. Пупіну. Карэспандэнцыю выкарыстаем. Пішыце больш,

Ал. Боўткелю. Выслалі Вам №№ 4 і 5 „Ш М".

Я. Ц. Адрас зьмянілі.

Фр. Храпану. Дужа цешымся, што Вы зразумелі агульную нашу справу і да яе прыхіляецеся. З платай пачакаем.

Машару. Вашыя ўвагі вельмі слушныя і ў меру магчымасьці будзем іх зьдзейсьневаць.

Даніловічу — Адзін зл. у рэд. „Сьвет" перадалі, прошлыя № № выслалі.

Ар. Ар. Вершы, Вашы атрымалі. Калі падойдуць, будзем памагчымасьці зьмяшчаць. Пішыце карэспандэнцыі з Вашага кута.

Плавейскаму. Друкарка каштуе ад 1, 50 да 3 зл. Грошы можаце паслаць на кнігарню „Пагоня" Людвісарская 1 і яна Вам вышле.

Г. Тамашуку: Апавяданьне Вашае да друку не падходзіць. Граматыкі яшчэ ня выслалі. Пішыце карэспандэнцыі з жыцьця моладзі.

Шыдлоўскаму А.: Выслалі Вам усе нумары „Ш М" за выняткам № 1, каторы ўжо увесь разышоўся.

П. Асіповічу. Дзеля таго, што Вы нас раз абманулі, цяпер, покуль не прышліцё грошы, часопісі высылаць Вам ня думаем.

К. С. Тутэйшаму: Карэспандэнцыю Вашу атрымалі, дзякуем. Пішыце больш. „Ш. М." высылаем.

С. Букуцю. Караспандэнцыю Вашу атрымалі, як відзеце — зьмяшчаем. Дзякуем, просім пісаць і на далей.

Ул. Кондрату. За прысланае і за пажаданьні шчыра дзякуем. „Ш. М." высылаем.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

М. Харытоніку: „Ш. М.“ высылаем, чакаем падпіскі.

Ш. Грынбэргу: „Ш. М.“ высылаем і чакаем падпіскі.

Атрымалі падпіску ад: Э. Трызны, Міхася Пасюты па 4 зл. І. Брылевіча, Курыловіча Ігн., Л. Шыдлоўскага, Э. Чэрняка, Іларыёна Бэрдніка, Балеслава Бабарыка па 2 зл.; Дз. Крупскага 2. 50 зл.; Беганскага М., Д. Дайлідовіча, Я. Пылінскага па 1 зл.; В. Перахода 95 гр.; Ул. Кондрата 1, 50.